Ці ведаеце вы?

# Як з'явілася першая адзнака і што з гэтага атрымалася

***Першая сістэма адзнак узнікла ў сярэдневяковых схаластычных школах Германіі як спосаб узмацнення ўплыву на дзіця, а таксама для размежавання вучняў па здольнасцях і ведах. Яна складалася з трох балаў, кожны з якіх абазначаў разрад па паспяховасці: 1 — лепшы, 2 — сярэдні, 3 — горшы.***

Затым сярэдні разрад быў падзелены, і атрымалася пяцібальная шкала, якую і запазычыла Расія, надаўшы ёй іншае значэнне — не падзел вучняў на разрады, а ацэньванне ведаў. Лёгка ўвайшоўшы ў практыку розных краін і прымаючы розныя формы, адзнакі хутка набылі сацыяльную значнасць. Пашырэнне ацэнак мела прагрэсіўны гуманістычны характар, таму што адмяняла фізічныя пакаранні.

Але і недахопы сістэмы адзнак як стымулятара навучання выявіліся ўжо даўно. У Расіі дыскусія аб мэтазгоднасці прымянення адзнак у школьным навучанні пачалася больш як сто гадоў таму ў Пецярбургскім педагагічным таварыстве. У "Веснiку выхавання" за 1901 год змяшчаюцца такія практычныя заўвагі: "... няма адзінкі для параўнання-эталона, з дапамогай якога можна было б змераць і аб'ектыўна ацаніць; псуе адносіны настаўніка і вучняў; адцягвае настаўніка ад яго асноўных абавязкаў, ператвараючы ў выпытвальніка; уносіць непрыемны гандлярскі дух у школьную справу; прымушае вучняў аддаваць перавагу не цікавасці да ведаў, а пагоні за паказной бойкасцю адказаў і сістэматычна прывучае іх не саромецца ў сродках для дасягнення гэтай бойкасці". Аднак альтэрнатывы прапанавана не было. А абаронцы сістэмы адзнак лічылі яе найбольш простым і даступным сродкам выклікаць спаборніцтва паміж дзецьмі, заахвоціць іх сістэматычна займацца.

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі ў маі 1918 года Луначарскі падпісвае пастанову "Аб адмене адзнак". Але навучанне без адзнак у маладой савецкай школе не ўвянчалася поспехам, а прывяло да бескантрольнасці навучальнага працэсу, таму што адзнакі былі выключаны са школьнай практыкі без адпаведнай рэарганізацыі самога працэсу навучання, матывацыйнай накіраванасці вучняў, без перападрыхтоўкі педагагічных кадраў.

У педагагічнай літаратуры таго часу ўсё часцей стала звяртацца ўвага на нізкі ўзровень ведаў школьнікаў. "Вучні, якія заканчваюць школу I ступені і не ўмеюць рабіць нават самых простых аперацый з дзесятковымі дробамі, памыляюцца ў дзеяннях з лікамі да тысячы, дапускаюць на кожнай старонцы свайго пісьма па некалькі дзесяткаў памылак, — гэта горкі факт нашых дзён", — пісаў Пяроўскі ў 1928 годзе.

У 1932 годзе быў адноўлены прынцып сістэматычнага ўліку ведаў. У якасці метадаў уліку называліся назіранне, праверка бягучых работ, кантрольныя работы, вуснае апытанне, тэсты паспяховасці. Важным момантам гэтага перыяду (і актуальным цяпер) з'явілася прызнанне немагчымасці стварэння універсальнага метаду ўліку ведаў, з чаго рабілася выснова аб неабходнасці прымянення розных метадаў, якія складаюць навукова абгрунтаваную сістэму кантролю і праверкі паспяховасці вучняў. Як паказала практыка, увядзенне рэгулярнага ўліку сябе апраўдала, вучэбная падрыхтоўка і дысцыпліна прыкметна павысіліся. Таму аднаўленне слоўнай пяцібальнай сістэмы ацэнкі ведаў, а затым з 1944 года пераход на лічбавую пяцібальную сістэму мелі прагрэсіўнае значэнне для павышэння адказнасці вучняў, бацькоў, настаўнікаў за аваладанне дзецьмі ведамі, павышэнне адказнасці саміх вучняў за сваю працу.

Разгляд пытанняў праверкі і ацэнкі ведаў вучняў у гістарычным вопыце сведчыць пра тое, што, будучы важнай дыдактычнай катэгорыяй, яны адлюстроўвалі асноўную накіраванасць працэсу навучання на кожным этапе развіцця новай школы і педагогікі. Такімі своеасаблівымі "педагагічным дамінантамі" з'яўляліся выхаванне актыўнасці і самастойнасці вучняў без адзнак у 20-я гады; павышэнне якасці ведаў, увядзенне ўліку і ацэнкі ведаў у 30-я гады. У 40-я ўпор рабіўся на кантралюючую функцыю адзнакі, а ў далейшым — на навучальную і выхаваўчую.

У 50-я гады новыя падыходы да ролі ўліку і ацэнкі ведаў у працэсе навучання знайшлі адлюстраванне ў дыскусіі, праведзенай на старонках часопіса "Савецкая педагогіка". У абагульняючым артыкуле, напісаным Есіпавым, адзначалася, што "правільна пастаўлены ўлік паспяховасці мае не толькі чыста кантрольныя функцыі, але абавязкова навучальнае і выхаваўчае значэнне".

Гэта сцвярджае і Пяроўскі, які раней падкрэсліваў вядучую ролю кантралюючай функцыі ўліку ведаў. У гэты перыяд Пяроўскім была навукова абгрунтавана неабходнасць замены тэрміна "ўлік" тэрмінам "праверка" (ведаў, уменняў і навыкаў), які з таго часу трывала замацаваўся ў педагогіцы.

На працягу 60-х гадоў асноўным лейтматывам у даследаванні праверкі і ацэнкі ведаў вучняў з'яўлялася ўсё большае прызнанне навучальнай функцыі як асноўнай. Акцэнтаванне ўвагі на навучальнай функцыі праверкі ведаў аб'ектыўна вяло да даследавання яе ролі ў развіцці пазнавальнай актыўнасці вучняў. На гэты бок праблемы звярнуў увагу М.А.Данілаў, які адзначаў, што **"праверка і ацэнка ведаў, уменняў і навыкаў вучняў, як і любое звяно навучальнага працэсу, садзейнічае развіццю пазнавальных сіл вучняў, асабліва мыслення, маўлення і памяці".**

У далейшым асаблівую актуальнасць набылі пытанні шматаспектнага даследавання праблемы праверкі і ацэнкі ведаў вучняў. У 1975 годзе выйшаў зборнік навуковых прац "Пытанні ўдасканалення, праверкі і ацэнкі ведаў, уменняў і навыкаў вучняў". У ім знайшлі адлюстраванне пытанні ўдасканалення праверкі ведаў: прынцыпы кантролю, функцыі, новыя формы і метады. "Толькі ў тым выпадку, калі настаўнік мае поўную, аб'ектыўную карціну засваення вучнем вучэбнага матэрыялу, ён можа абгрунтавана прымяняць тыя ці іншыя формы арганізацыі навучання, разнастайныя і эфектыўныя спосабы і прыёмы. Яна (праверка) з'яўляецца для настаўніка сродкам устанаўлення таго, як вучні засвойваюць праграмны матэрыял, як адбываецца іх развіццё па гадах навучання".

У кнізе "Асновы дыдактыкі" быў зроблены агульны вывад, які падзяляецца сучаснай дыдактыкай: "Улік паспяховасці — неад'емны бок працэсу школьнага навучання".

Такім чынам, у педагагічнай навуцы шмат увагі ўдзялялася вывучэнню пытанняў кантролю ведаў — праверцы. Удакладняліся прынцыпы і функцыі, удасканальваліся формы і метады кантролю. А вось сістэма ацэньвання заставалася і застаецца ранейшай, прынятай яшчэ ў 40-я гады.

**Ала ГРЫБЕНШЧЫКАВА.**

# Падрыхтаваныя да друку вучэбна-метадычныя і дыдактычныя матэрыялы для 7(6) класа

| № | Назва рукапісу | Аўтары | Аб'ём | Тыраж |
|---|---|---|---|---|
| | **БЕЛАРУСКАЯ МОВА** | | | |
| 1. | Беларуская мова: Эксперыментальная праграма для 7 класа школ з беларускай мовай навучання | Протчанка В.У.<br>Валочка Г.М.<br>Красней В.П.<br>Лаўрэль Я.М.<br>Язерская С.А.<br>Якуба С.М. | 0,5 | 50 |
| 2. | Беларуская мова: Эксперыментальная праграма для 7 класа школ з рускай мовай навучання | Малажай Г.М. | 0,5 | 50 |
| 3. | Беларуская мова: Эксперыментальны падручнік для 7 класа школ з беларускай мовай навучання | Валочка Г.М.<br>Лаўрэль Я.М. | 12,0 | 430 |
| 4. | Беларуская мова: Эксперыментальны падручнік для 7 класа школ з рускай мовай навучання | Малажай Г.М. | 14,0 | 1470 |
| 5. | Прыкладнае планаванне ўрокаў беларускай мовы ў 7 класе: Дапаможнік для настаўнікаў школ з беларускай мовай навучання | Валочка Г.М.<br>Язерская С.А. | 2,0 | 30 |
| 6. | Прыкладнае планаванне ўрокаў беларускай мовы ў 7 класе: Дапаможнік для настаўнікаў школ з рускай мовай навучання | Якуба С.М. | 2,0 | 50 |
| 7. | Дыдактычны матэрыял па беларускай мове для 7 класа: Дапаможнік для настаўніка | Валочка Г.М. | 2,0 | 50 |
| | **РУССКИЙ ЯЗЫК** | | | |
| 8. | Русский язык: Экспериментальная программа для 7 класса школ с белорусским языком обучения | Мурина Л.А.<br>Шуба П.П.<br>Литвинко Ф.М.<br>Николаенко Г.И.<br>Долбик Е.Е | 1,5 | 50 |
| 9. | Русский язык: Экспериментальная программа для 7 класса школ с русским языком обучения | Мурина Л.А.<br>Шуба П.П.<br>Литвинко Ф.М.<br>Николаенко Г.И.<br>Долбик Е.Е. | 1,5 | 50 |
| 10. | Русский язык: Экспериментальный учебник для 7 класса школ с белорусским языком обучения | Мурина Л.А.<br>Шуба П.П.<br>Литвинко Ф.М.<br>Николаенко Г.И.<br>Долбик Е.Е. | 22,0 | 430 |
| 11. | Русский язык: Экспериментальный учебник для 7 класса школ с русским языком обучения | Мурина Л.А.<br>Шуба П.П.<br>Литвинко Ф.М.<br>Николаенко Г.И.<br>Долбик Е.Е. | 25,0 | 1470 |
| 12. | Вариативный компонент преподавания русского языка в 7 классе: Пособие для учителя | Мурина Л.А.<br>Николаенко Г.И.<br>Китаева Т.В.<br>Скаковский В.Д. | 10,0 | 50 |
| 13. | Русский язык: Методические рекомендации для учителя | Мурина Л.А.,<br>Николаенко Г.И.,<br>Литвинко Ф.М.,<br>Долбик Е.Е. | 5,0 | 50 |
| 14. | Дидактический материал по русскому языку: Пособие для учителя | Китаева Т.В. | 4,0 | 50 |
| | **МАТЭМАТЫКА** | | | |
| 15. | Математика: Экспериментальная программа для 7 класса | Тавгень О.И.<br>Новик И.А.<br>Ананченко К.О.<br>и др. | 0,5 | 50 |
| 16. | Матэматыка: Эксперыментальны падручнік для 7 класа школ з рускай мовай навучання (на рускай мове) | Латоцін Л.А.<br>Чабатарэўскі Б.Д. | 9,0 | 490 |
| 17. | Матэматыка: Эксперыментальны падручнік для 7 класа школ з беларускай мовай навучання (на рускай мове) | Латоцін Л.А.<br>Чабатарэўскі Б.Д. | 9,0 | 430 |
| 18. | Математика: Экспериментальный учебник для 7 класса. Вариант 2 | Солтан Г.Н. | 12,0 | 490 |
| 19. | Математика: Экспериментальный учебник для 7 класса. Вариант 3 | Шнеперман Л.Б.<br>Кузнецова Е.П.<br>Муравьева Г.Л.<br>Ящин Б.Ю. | 15,0 | 490 |
| 20. | Матэматыка ў 7 класе: Дапаможнік для настаўніка | Латотин Л.А.<br>Чеботаревский Б.Д. | 13,0 | 70 |
| 21. | Сборник задач по математике | Латотин Л.А.<br>Чеботаревский Б.Д. | 6,0 | |
| 22. | Дидактические материалы | Латотин Л.А.<br>Чеботаревский Б.Д. | 12,0 | |
| 23. | Дыдактычныя матэрыялы | Латоцін Л.А.<br>і інш. | 12,0 | |
| 24. | Дидактические материалы | Шнеперман Л.Б.<br>и др. | 12,0 | |
| 25. | Математика в 6 классе: Методическое пособие | Шнеперман Л.Б.<br>и др. | 15,0 | |
| 26. | Сборник задач по математике | Шнеперман Л.Б.<br>и др. | 10,0 | |
| 27. | Рабочая тетрадь по математике | Шнеперман Л.Б.<br>и др. | 5,0 | |
| 28. | Дидактические материалы | Солтан Г.Н. | 12,0 | |
| 29. | Математика в 6 классе. Методическое пособие | Солтан Г.Н. и др. | 15,0 | |
| 30. | Рабочая тетрадь по математике | Солтан Г.Н. и др. | 10,0 | |
| | **БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА** | | | |
| 31. | Родная літаратура: Эксперыментальная праграма для 7 класа | Лазарук М.А.<br>Слесарава І.М. | 0,7 | 50 |
| 32. | Родная літаратура: Эксперыментальны падручнік для 7 класа | Лазарук М.А.<br>Русілка В.І.<br>Слесарава І.М. | 22,0 | 1820 |
| 33. | Родная літаратура: Дапаможнік для настаўніка | Лявонава П.І.<br>Русілка В.І.<br>Слесарава І.М. | 5,0 | 50 |
| 34. | Аб роднай зямлі: Хрэстаматыя для пазакласнага чытання | Лявонава П.І.<br>Слесарава І.М. | 16,0 | 200 |
| | **РУССКАЯ ЛИТЕРАТУРА** | | | |
| 35. | Русская литература: Экспериментальная программа для 7 класса | Каратай С.Н.<br>Перевозная Е.В. | 1,0 | 50 |
| 36. | Дидактические материалы по русской литературе для 7 класса. В помощь учителю-экспериментатору | Петровская Л.К. | 2,0 | 50 |
| 37. | Диагностические материалы по русской литературе для 7 класса. В помощь учителю-экспериментатору | Петровская Л.К.<br>Мушинская Т.Ф. | 1,0 | 50 |
| | **ЗАМЕЖНАЯ МОВА** | | | |
| 38. | Иностранный язык: Экспериментальные программы для 7 класса | Маслыко Е.А<br>Томилко А.Г.<br>Банникова Л.С.<br>и др. | 0,7 | 50 |
| 39. | Французский язык: Экспериментальный учебник для 7 класса | Вадюшина Д.С. | 11,0 | 300 |
| 40. | Немецкий язык: Экспериментальный учебник для 6 класса | Будько А.Ф. | 11,0 | 200 |
| 41. | Методические рекомендации по планированию уроков английского языка в 7 классе | Панова И.И. | 3,0 | 50 |
| 42. | Французский язык: Рабочая тетрадь для 7 класса | Вадюшина Д.С. | 5,0 | 300 |
| 43. | Английский язык: Рабочая тетрадь для 7 класса | Панова И.И. | 5,0 | 200 |
| 44. | Немецкий язык: Рабочая тетрадь для 6 класса | Будько А.Ф. | 5,0 | 200 |
| | **ГІСТОРЫЯ** | | | |
| 45. | Гісторыя Беларусі: Эксперыментальная праграма для 7 класа | Лойка П.А.<br>Сякацкая К.І.<br>і інш. | 0,5 | 50 |
| 46. | Сусветная гісторыя Новага часу: Эксперыментальная праграма для 7 класа | Кошалеў У.С.<br>і інш. | 0,5 | 50 |
| 47. | Гісторыя Беларусі: Эксперыментальны падручнік для 7 класа | Лойка П.А.<br>Сякацкая К.І. | 8,0 | 1820 |
| 48. | Сусветная гісторыя Новага часу (на рускай мове) | Кошалеў У.С.<br>Аржахоўскі І.В. | 8,0 | 1470 |
| 49. | Сусветная гісторыя Новага часу (на беларускай мове) | Кошалеў У.С.<br>Аржахоўскі І.В. | 8,0 | 430 |
| 50. | Навучанне гісторыі ў 7 класе: Дапаможнік для настаўніка | Сякацкая К.І. | 5,0 | 50 |
| 51. | Рабочы сшытак па гісторыі Беларусі: Вучэбны дапаможнік | Лойка П.А. | 3,0 | 1820 |
| 52. | Кніга для чытання па гісторыі Беларусі: Вучэбны дапаможнік | Новік Н.Е. | 5,0 | 600 |
| 53. | Кніга для чытання па гісторыі Новага часу: Дапаможнік для настаўніка | Лугаўцова С.А. | 5,0 | 600 |
| 54. | Хрэстаматыя па гісторыі: Дапаможнік для настаўніка | Лойка П.А. | 8,0 | 600 |
| | **ГЕАГРАФІЯ** | | | |
| 55. | Геаграфія: Эксперыментальная праграма для 7 класа | Крайко Б.М.<br>Галай І.П.<br>Обух Р.Г.<br>Зыль А.А. і інш. | 0,5 | 50 |
| 56. | Геаграфія: Эксперыментальны падручнік для 7 класа (на рускай мове) | Крайко Б.М.<br>Галай І.П.<br>Андрыеўская З.Я.<br>і інш. | 9,0 | 1470 |
| 57. | Геаграфія: Эксперыментальны падручнік для 7 класа (на беларускай мове) | Крайко Б.М.<br>Галай І.П.<br>Андрыеўская З.Я.<br>і інш. | 9,0 | 430 |
| 58. | Урокі геаграфіі ў 7 класе: Дапаможнік для настаўніка | Крайко Б.М.<br>Галай І.П.<br>Сыраежкіна Л.К.<br>Обух Р.Г. і інш. | 4,0 | 50 |
| 59. | Сшытак па геаграфіі для 7 класа: Дапаможнік для вучняў (на рускай мове) | Крайко Б.М.<br>Атрахімовіч В.М. | 3,0 | 1470 |
| 60. | Сшытак па геаграфіі для 7 класа: Дапаможнік для вучняў (на рускай мове) | Крайко Б.М.<br>Атрахімовіч В.М. | 3,0 | 430 |
| | **БІЯЛОГІЯ** | | | |
| 61. | Биология: Экспериментальная программа для 7 класса | Марченко Э.А.<br>Мартыненко В.П.<br>и др. | 1,5 | 50 |
| 62. | Биология: Экспериментальный учебник для школ с русским языком обучения | Марченко Э.А.<br>Мартыненко В.П. | 12,0 | 1470 |
| 63. | Біялогія: Эксперыментальны падручнік для школ з беларускай мовай навучання | Марчанка Э.А.<br>Мартыненка У.П. | 12,0 | 430 |
| 64. | Биология: Рабочая тетрадь учащегося для школ с русским языком обучения | Марченко Э.А.<br>Ильич Е.В. | 3,0 | 1470 |
| 65. | Біялогія: Рабочы сшытак вучня для школ з беларускай мовай навучання | Марчанка Э.А.<br>Ільыч А.В. | 3,0 | 430 |
| 66. | Биология: Методическое пособие | Марченко Э.А.<br>Мартыненко В.П. | 8,0 | 50 |
| | **ФІЗІКА** | | | |
| 67. | Фізіка: Эксперыментальная праграма для 7, 6 класаў | Дыніч В.І.<br>Талкачоў Е.А.<br>Гебутаў В.А.<br>Лісейчыкава Л.З.<br>і інш. | 0,5 | 50 |
| 68. | Фізіка-7: Эксперыментальны падручнік для 7 класа (на рускай мове) | Дыніч В.І.<br>Талкачоў Е.А.<br>і інш. | 6,0 | 1470 |
| 69. | Фізіка-6: Эксперыментальны падручнік для 6 класа (на беларускай мове) | Дыніч В.І.<br>Талкачоў Е.А.<br>і інш. | 6,0 | 430 |
| 70. | Фізіка-7: Дапаможнік для настаўніка | Дыніч В.І.<br>Талкачоў Е.А. | 4,0 | 50 |
| 71. | Сшытак па фізіцы для 6 класа: Дапаможнік для вучняў (на беларускай мове) | Дыніч В.І.<br>Талкачоў Е.А. | 3,5 | 430 |
| 72. | Рабочая тетрадь по физике для 7 кл. Пособие для учащихся (на русском языке) | Дынич В.И.<br>Толкачев Е.А. | 3,5 | 1470 |
| | **ВЫЯЎЛЕНЧАЕ МАСТАЦТВА** | | | |
| 73. | Выяўленчае мастацтва: Эксперыментальная праграма для 7 класа | Мінц Н.Д.<br>Таланцава В.Ф. | 0,5 | 50 |
| 74. | Мастацтва бачыць свет: Эксперыментальны падручнік для 7 класа (на беларускай мове) | Таланцава В.Ф.<br>Ленсу Я.Ю.<br>Габрусь Т.Б. | 5,0 | 600 |
| 75. | Выяўленчае мастацтва: Вучэбны дапаможнік для 5 — 7 класаў (на беларускай мове) | Мінц Н.Д.<br>Вількіна І.В. | 6,0 | 600 |
| 76. | Сшытак па выяўленчаму мастацтву: Дапаможнік для вучняў 7 класаў (на беларускай мове) | Мінц Н.Д.<br>Таланцава В.Ф. | 4,0 | 1700 |
| 77. | Прыкладнае планаванне ўрокаў па выяўленчаму мастацтву: Метадычныя рэкамендацыі для 7 класа | Мінц Н.Д.<br>Таланцава В.Ф. | 3,0 | 50 |
| | **МУЗЫКА** | | | |
| 78. | Музыка: Эксперыментальная праграма для 7 класа | Юркевіч В.Д. | 0,5 | 50 |
| 79. | Музыка: Эксперыментальны падручнік для 7 класа (на рускай мове) | Юркевіч В.Д. | 10,0 | 600 |
| 80. | Кніга для настаўніка: Метадычны дапаможнік | Юркевіч В.Д. | 4,0 | 50 |
| 81. | Кніга для вучняў: Вучэбны дапаможнік (на рускай мове) | Юркевіч В.Д. | 5,0 | 600 |
| | **ТЭХНАЛОГІЯ** | | | |
| 82. | Технология: 7 класс: Программа для экспериментальных школ | Журба А.Ф.<br>Столярова С.И.<br>Шульга Н.И.<br>Хамица Е.Н.<br>Ревуцкий В.И.<br>Велишкевич Н.А.<br>Сысоева И.А.<br>Алексеева Л.И.<br>Шерикова М.П.<br>Хитько И.И.<br>Бобрович Г.А. | 2,0 | 50 |
| 83. | Технология: 7 класс: Для мальчиков: Экспериментальный учебник для школ с русским языком обучения | Журба А.Ф.<br>Шульга Н.И.<br>Велишкевич М.А.<br>Ревуцкий В.И. | 12,0 | 790 |
| 84. | Тэхналогія: 7 клас: Для хлопчыкаў: Эксперыментальны падручнік для школ з беларускай мовай навучання | Журба А.Ф.<br>Шульга М.І.<br>Велішкевіч Н.А.<br>Рэвуцкі У.І. | 12,0 | 270 |
| 85. | Технология: 7 класс: Для девочек: Экспериментальный учебник для школ с русским языком обучения | Столярова С.И.<br>Сысоева И.А.<br>Алексеева Л.И.<br>Шерикова М.П. | 12,0 | 820 |
| 86. | Тэхналогія: 7 клас: Для дзяўчынак: Эксперыментальны падручнік для школ з беларускай мовай навучання | Сталярова С.І.<br>Сысоева І.А.<br>Аляксеева Л.І.<br>Шэрыкава М.П. | 12,0 | 250 |
| 87. | Технология народных ремесел, растениеводства: 7 класс: Экспериментальный учебник | Столярова С.И.<br>Журба А.Ф.<br>Сысоева И.А.<br>Алексеева Л.И.<br>Шерикова М.П.<br>Бобрович Г.А.<br>Хитько И.П.<br>Велишкевич Н.А.<br>Хамица Е.Н. | 12,0 | 1470 |
| 88. | Тэхналогія народных рамёстваў, раслінаводства: 7 клас: Эксперыментальны падручнік | Сталярова С.І.<br>Журба А.Ф.<br>Сысоева І.А.<br>Аляксеева Л.І.<br>Шэрыкава М.П.<br>Бабровіч Г.А.<br>Хіцько І.П.<br>Велішкевіч М.А.<br>Хаміца А.М. | 12,0 | 430 |
| 89. | Уроки технологии (для девочек) в 7 классе: Пособие для учителя | Столярова С.И.<br>Сысоева И.А.<br>Алексеева Л.И.<br>Шерикова М.П. | 6,0 | 50 |
| 90. | Уроки технологии народных ремесел: Пособие для учителя | Столярова С.И.<br>Журба А.Ф.<br>Сысоева И.А.<br>Алексеева Л.И.<br>Шерикова М.П.<br>Бобрович Г.А.<br>Хитько И.П.<br>Велишкевич Н.А. | 8,0 | 50 |
| 91. | Уроки технологии растениеводства: Пособие для учителя | Хамица Е.Н. | 2,0 | 50 |
| 92. | Токарные работы в курсе "Технология": Пособие для учителя | Журба А.Ф.<br>Велишкевич Н.А. | 6,0 | 50 |
| 93. | Слесарные работы в курсе "Технология": Пособие для учителя | Шульга Н.И.<br>Шумский М.Н. | 5,0 | 50 |
| 94. | Уроки технологии хозяйствования: Пособие для учителя | Ревуцкий В.И. | 4,0 | 50 |
| 95. | Дидактический материал по технологии, 7 класс: Для девочек: Пособие для учителя | Столярова С.И.<br>Сысоева И.А.<br>Алексеева Л.И.<br>Шерикова М.П. | 4,0 | 50 |
| 96. | Дидактический материал по технологии обработки древесины и металла, 7 класс: Пособие для учителя | Журба А.Ф.<br>Велишкевич Н.А. | 4,0 | 50 |
| 97. | Дыдактычны матэрыял па тэхналогіі апрацоўкі драўніны: 7 клас: Дапаможнік для настаўніка | Журба А.Ф.<br>Велішкевіч М.А.<br>Юдзіцкі В.А. | 4,0 | 50 |
| 98. | Дидактический материал по технологии народных ремесел: Пособие для учителя | Столярова С.И.<br>Журба А.Ф.<br>Сысоева И.А.<br>Алексеева Л.И.<br>Шерикова М.П.<br>Бобрович Г.А.<br>Хитько И.П.<br>Велишкевич Н.А. | 4,0 | 50 |
| 99. | Дидактический материал по технологии обработки металлов: Пособие для учителя | Шульга Н.И.<br>Шумский М.Н. | 4,0 | 50 |
| | **ФІЗІЧНАЯ КУЛЬТУРА** | | | |
| 100. | Физическая культура, 7 класс: Для экспериментальных школ — учебная программа | Кряж В.Н. | 1,0 | 50 |
| 101. | Физическая культура, 7 класс: Пособие для учителя | Кряж В.Н. и др. | 3,0 | 50 |

